# ПАДАРУНКІ СЯБРОЎ



Юбілейная ваза. Падарунак ад ленінградцаў.

Мінуў слаўны юбілей 40-годдзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Раз'ехаліся госці. Але памяць аб іх жыве не толькі ва ўспамінах, але і ў шматлікіх падарунках, якія прывезлі яны на святкаванне юбілейнай даты.

Вось падарункі, прывезеныя з братняй Украіны. Якая прыгажосць! Багаты дыван, унікальная ваза, піяніна, скульптурная група. Такія рэчы падносяцца ад шчырага сэрца, бо зроблены яны на дзіва цудоўна і любоўна.

А побач падарункі ад паўночных суседзяў — працоўных Літвы. Бы вясёлка, рассыпалася мазаічнае пано са шкла. Яно ўвасабляе перамогі на фронце мірнага будаўніцтва.

З далёкага Азербайджана прыбыў дыван з барэльефам Уладзіміра Ільіча Леніна, альбом з відамі Баку, мастацкі пісьмовы прыбор. Ленінградцы падарылі па-мастацку афармленую вазу з надпісам.

Рускі народ падарыў сярэбраную шкатулку з залатым аздабленнем і адрасам, што ўкладзен у папку, на якой умелай рукой выразан на слановай косці вобраз У. І. Леніна.



Падарунак ад народу Расійскай Федэрацыі.

Хвалюе падарунак сталінградцаў. Многія выдатныя сыны народа, у тым ліку і беларусы, аддалі свае жыццё, абараняючы Сталінград ад полчышчаў нямецка - фашысцкіх захопнікаў. І вось яна, гэтая свяшчэнная зямля горада - героя ў шкляной шкатулцы з надпісам: «Свяшчэнная зямля, прапітаная крывёю савецкіх воінаў, абаронцаў Сталінграда. Узята на Мамаевым кургане ў месцы жорсткіх баёў 1942—43 г. г.»

Побач з гэтым беларусы свята захоўваюць дзесяткі іншых падарункаў ад працоўных братніх рэспублік і гарадоў Савецкага Саюза, прывезеных у Беларусь на святкаванне саракагадовага юбілею рэспублікі.



Габелен. Падарунак ад казахскага народа.

З гісторыі камсамольцаў Беласточчыны

## ПЕРШЫ ГАРТ

2)

Не пакідаючы агрэсіўных намераў, рэакцыйныя правіцелі Польшчы падтрымоўвалі тэрарыстычныя і шпіёнска - дыверсійныя белагвардзейскія арганізацыі, узмоцнена згуртоўвалі антысавецкія блокі.

Буржуазна - памешчыцкая Польшча з'яўлялася галоўным звяном у «санітарным кардоне», які імперыялісты стараліся стварыць вакол Савецкай дзяржавы.

У той жа час памешчыкі, капіталісты, «асаднікі» і чыноўнікі дзяржаўнага апарату ў Заходняй Беларусі не грэбавалі нічым у сваёй грабежніцкай палітыцы, жорстка падаўлялі выступленні працоўных мас. Аднак вызваленчая барацьба з кожным днём расла. Гэтая барацьба прымала такія формы, як падпальванне маёнткаў, знішчэнне «асаднікаў», масавыя парубкі лесу, узброеная барацьба з паліцыяй, адмова плаціць падаткі і т. п. Толькі за адзін 1922 год паводле сцвярджэння В. Грабскага, былога прэм'ер - міністра Польшчы, у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне было адзначана 878 масавых выступленняў рабочых і сялян. У іх прымалі самы жывы і непасрэдны ўдзел камсамольцы і моладзь.

У перыяд 1921 — 1924 г. г. вызваленчая барацьба ў Заходняй Беларусі насіла партызанскі характар. Дзеянні беларускіх партызан вельмі часта выходзілі за межы дробных налётаў на памешчыцкія маёнткі або на дробныя карныя групы і атрады. На Палессі, у Навагрудскім ваяводстве партызаны часам уступалі ў бой з рэгулярнымі войскамі.

Але барацьба была няроўнай. Да таго ж, у канцы 1923 года рэвалюцыйныя выступленні ў Балгарыі, Германіі былі падаўлены. У самой Польшчы рэакцыі ўдалося задушыць Кракаўскае ўзброенае паўстанне.

Пратрымаўшыся на працягу 1924 года на высокім узроўні, узброеная барацьба сялян Заходняй Беларусі пайшла на спад. Аднак выдатным вынікам гэтай барацьбы было тое, што ў яе агні вырас і загартаваўся баявы памочнік Камуністычнай партыі — камсамол Заходняй Беларусі, як масавая арганізацыя моладзі.

### Стварэнне шырокай сеткі падпольнай арганізацыі

Ад метад ў партызаншчыны КСМЗБ перайшоў да стварэння шырокай сеткі падпольных арганізацый. Ужо ў 1923 годзе былі створаны акруговыя, раённыя камітэты камсамола. Аформіўся Цэнтральны Камітэт камсамола Заходняй Беларусі, а чале якога ў канцы 1924 года становіцца палымяны трыбун - масавік, вялікі арганізатар і нястомная рэвалюцыянерка Вера Харунжая. Члены ЦК КСМ Заходняй Беларусі ездзілі па гарадах, мястэчках і вёсках, праводзілі нарады камсамольскага актыву, канферэнцыі, пасяджэнні камітэтаў, сходы падпольных ячэек.

Асаблівую ўвагу Цэнтральны Камітэт камсамола Заходняй Беларусі ўдзяляў выданню падпольных юнацкіх газет, часопісаў, адозваў, лістовак. Першапачаткова на ратататарах, а затым у канспіратыўных друкарнях друкаваліся камсамольскія газеты «Малады камуніст», «Пабаравец» (прызыўнік у армію), часопіс «Камсамолец», «Маладая гвардыя», адозвы, брашуры на беларускай, польскай, рускай, яўрэйскай мовах.

І дастаўлялася гэтая літаратура ў многія гарады, мястэчкі, вёскі.

Аб паспяховай дастаўцы нелегальнай літаратуры з Беластока ў арганізацыю ўспамінае В. Ласковіч: «Мяне камандзіравалі ў Беласток з Брэста за камуністычнай літаратурай. Я быў малады і нявопытны. Гэта была мая першая паездка ў незнаёмы мне горад Беласток. Яўка была назначана ў чайной. Сувязная — афіцыянтка прыняла мяне. І пры яе садзеянні я атрымаў нелегальную літаратуру. Прычым атрыманне літаратуры было добра арганізавана. Сувязная звяла мяне з юнаком, які прынёс мне ў поезд чамадан літаратуры, праехаў са мной у адным купэ тры астаноўкі, а затым непрыкметна вышаў, пакінуўшы мне чамадан. І вось не паспеў выйсці мой спадарожнік, як у купэ да мяне ўвайшла бабулька і суправаджаўшыя яе ўнеслі тры чамаданы і мноства розных клункаў. З размовы я даведаўся, што мая спадарожніца — маці каменданта чыгуначнай паліцыі станцыі Брэст-Цэнтральны. Я рашыў заваяваць павагу і давер бабулькі. Таму я старанна дапамагаў ёй укладваць клуначкі, чамаданы і наогул паслужліва выконваў малейшую яе просьбу.

І калі на станцыі Чаромха была праверка дакументаў, а затым, калі я прыбыў у Брэст, — гэта вельмі дапамагло. Літаратуру я даставіў як нельга лепш».

(Працяг будзе)

**НА СТАРОНЦЫ АДБОРНЫ МАТЭРЫЯЛ ДЛЯ ГУРТКОЎ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ.**






**Дазвольце прадставіцца. Гэта я, Ганула, хачу вам нешта расказаць**

## З МАЁЙ БІЯГРАФІІ

Тата з мамай пажаніліся, а праз некалькі гадоў я, як кажуць, знайшлася ў іх.

Так я і расла з году на год, а ўсе гаварылі:

— Як жа яна, ваша Ганулька, расце, як развіваецца, усёроўна бы не тое дзіцё. І ўсё — «як расце, як развіваецца, як жа, як жа, бы не тое дзіцё...»

А я слухала і думала:

— Ці то і тое дзіцё, ці іншае. А, нарэшце, чыё я дзіця?

Справа высветлілася, як прыехала цётка з-за мяжы. Убачыўшы мяне, яна ўскрыкнула:

— Ганулька, дзяцінанка, як жа ты вырасла, на ўсю сям'ю прыгажуня. Чароўная дзяўчына, яна ў вас цалкам падобная на гэтага маладога ахвіцэра, што перад вайною быў на кватэры ў маёй цёшчы.

Маці гаркавата ўсміхнулася, татка зрабіў невыразны выгляд...

— Магчыма, — задумёна гавару цётцы,—што ж, чалавек змяняецца. Хто нарадзіўся перад вайною і вырас у крывавых баях, той стаў іншым чалавекам.

— Гераіня! — захапілася цётка, — нават мае свой палітычны погляд...

Так, цёця, нялёгка ўсё гэта прыйшлося.

Іншых дзяцей у той час буслы прыносілі, а я толькі дзякуючы роднаму бацьку ў дом з'явілася. Бедны бацька, сваімі сіламі... сам, у працоўні і двух пакрывалах, прынёс мяне з бальніцы.

Каб жа гэта было сёння, у перыяд шырока разгорнутай тэхнікі, развіцця гурткоў мастацкай самадзейнасці, хуліганскіх выбрыкаў, дык я інакш справу паставіла б, пачакала б яшчэ крыху.

Кажуць, што неўзабаве будзе наладжана масавая вытворчасць людскіх душ, сканструяваных пры дапамозе электрычнага мозгу. Усялякае, так сказаць, саматужніцтва ў гэтай галіне будзе ліквідавана.

* * *

Закончыўшы пачатковую школу, я паступіла ў ліцэй.

Аднойчы мой дырэктар спытаў жартам, у выніку чаго дайшло да сур'ёзнага сутыкнення паміж намі...

Значыцца, ён спытаў, якія хлопцы мне больш падабаюцца — вясёлыя, сур'ёзныя, бландзіны, рыжаватыя ці брунецікі з буйнымі чупрынамі?

— Сталыя, — адказала я яму, — і не хлопцы, а мужчыны, ды не такія нетыповыя, а акасалыя — зусім без валос.

Дырэктару так і вочы на лоб палезлі.

— Дык вунь як, мая вучаніца мужчынамі захапляецца, ды нейкімі нетыповымі, а да таго вы смеецца насмейваецца над галавою свайго дырэктара?

Тут нешта бліскучае паразіла мае вочы, у чым адбіваліся ўсе электрычныя лямпачкі са столі. Гэта і была голая, як калена, галава дырэктара

— Не забывайце, што я ваш дырэктар! — пачуўся ізноў грозны голас.

— Ды я чэ аб вас (мне толькі цяпер прыйшло на думку, што дырэктар абразіўся, так як сам быў лысы), я пра акцёра — Юля Брыннэра, а ён не лысы, толькі брые...

— Брые?! Дзе, што брые?! Ганьба, мае вучаніцы акцёрамі любуюцца, паважаюць іх!..

— Паважаны дырэктар, я вас больш за ўсіх паважаю і люблю...

— Яшчэ раз прыпамінаю, прашу не забываць аб тым, што я дырэктар. А вам раманы ў галаве?!

Не ведаю, як далёка пайшлі б нашы справы, каб не званок на ўрок.

А ўвогуле, то магчыма, што і паставілі б мяне пад суд педагагічнай рады. школьнага самапраўлення, каб не дачка дырэктара — дабрадушная, салодкая дзяўчына з вялікім носам і лупатымі губамі, як ю я чым хутчэй пазнаёміла з дубініцым Леванам, якому ногі на паўтара метры ад зямлі паадрасталі.

З той пары я не стала жартаваць з дырэктарам і захапляцца акцёрамі.

У сучасны момант я — кандыдатка на забеганую, клапатлівую, цярплівую, хоць выведзеную з раўнавагі жонку.

Чаго і вам жадаю.

ГАНУЛЯ ЗБЯДОЮ

## У сталовай



— Бачыце, начальнік, анучка ў баршчу плавае...

— А што вы хочаце, каб вам за пяць злотых цэлы касцюм плаваў?

## ЭПІГРАМЫ

Нічога не маю да Любкі,
Калі паказвае свае зубкі.

Добра мець жонку,
Але не добра-пустую кішонку.

С. К.

## Дабрачынны

Жонка пытае ў мужа:

— Ці зрабіў ты ў сваім жыцці хоць адзін добры ўчынак?

— Вядома, ды яшчэ які, — адказвае муж.

— Які ж?

— Выратаваў цябе ад таго, каб ты ў старых дзеўках не засталася.

Прыслаў
ПАВЕЛ ЛЕМЕШ
Кашалі
Бельскі павет

## Свая надаела

— Калі ты, Кастусь, скурыш сваю махорку, усё да мяне прыходзіш пакурыць?

— Ай, каб ты знаў, суседзе, як свая ўжо надаела.

С. К.

## ЧАСТУШКІ

ЖАНЧЫНА:

Тата, родны, галубок
Мяне любіць Васілёк.
Маю ручаньку сціскаў,
Тры разы пацалаваў.

МУЖЧЫНА:

Ой, дачушка, дарагая,
Ты ж такая маладая,
Нельга рана так кахацца,
Нельга з хлопцам цалавацца.

ЖАНЧЫНА:

Тата, родны, галубок
Што за хлопец Васілёк —
Вочкі сінія, як неба,
Весь такога мне і трэба.

МУЖЧЫНА:

Многіх я ў жыцці кахаў.
Але губак не кранаў,
Ледзь да брамачкі давёў
І назад хутчэй ішоў.

ЖАНЧЫНА:

Буду таточка, старацца,
Рана з вечара вяртацца,
Ды ў цябе я не пайшла,
Каб усіх кахаць магла.

МУЖЧЫНА:

Я ж да мамкі год хадзіў
І хоць шчыра так любіў —
Ні да сэрца прыгарнуў,
Ані вокам падмігнуў.

ЖАНЧЫНА:

А ты, татка, не грашы,
Скажы праўду ад душы,
Мусіць, добра ты маргаў
Што вяселле загуляў.

З. БУСЛОВІЧ

## Паміж знаёмымі



— Што ты робіш?

— Узіраюся на прыгожых дзяўчатак.

— Гэта твае работы?

— Не, не... фотарэпарцёра...

## Развязка рэбуса з № 12 (160) „Нівы"

Чытачы прыслалі 92 правільныя адказы.

Правільная развязка рэбуса: «Пішчыць, як свіння ў плоце»

Кніжныя ўзнагароды вылясавалі:

1. Рыгор Зіневіч — Чаромха, Гайнаўскі павет.
2. Алесь Бандарук — Вастравок, Сакольскі павет.
3. Уладзімір Буйко — Новая Воля, Беластоцкі павет.
4. Мікола Лапінскі — Тынкоўшчына, Гайнаўскі павет.
5. Рая Данілюк — Орля, Бельскі павет.
6. Рыгор Базылюк — Навасёлкі, Бельскі павет.
7. Вера Кожух — Вулька, Бельскі павет.
8. Валодзя Данілюк — Малінніхі, Бельскі павет.
9. Валя Анішчук — Сапава, Гайнаўскі павет.
10. Янка Азябла — Пянькі, Беластоцкі павет.

Узнагароды высылаем поштай.